





Малюнкі Міколы ГІРГЕЛЯ.

# ІГОЛКА-ТЭРАПІЯ

## Мара і ява фінансіста

***Дзяржынск.*** Відавочна, у дзяцінстве жыхар г. Дзяржынска зачытваўся не «Прыгодамі Тома Соера», а раманам Тэадора Драйзера «Фінансіст». А калі вырас, вырашыў паўтарыць махлярствы дзялка Каўпервуда. Таму наладзіў у Дзяржынскім і Стаўбцоўскім раёнах буйнамаштабныя аперацыі з куплямі-продажам кватэр, дамоў і зямельных участкаў... Але даць фору сучасным вядомым фінансістам яму перашкодзілі кантралёры. І падлічылі, што з 13 незаконных здзелак ён паклаў сабе ў кішэнь амаль 160 мільёнаў рублёў.

Новаспечаны фінансіст марыў пра ўласны асабняк, а на яве ўбачыць, як кажуць, неба ў клетачку, а штаны ў палосачку.



## Бярмудскія кішэні

***Брэсцкая вобласць.*** Свой Бярмудскі трохвугольнік утварыў на тэрыторыі Матыкальскага сельсавета яго старшыня. На працягу чатырох гадоў тут і почуту не было пра свабодныя зямельныя ўчасткі ў вёсцы Цюхінічы. Праўда, час ад часу гэтыя ўчасткі з'яўляліся, але толькі для асобных грамадзян.

«Магнітныя хвалі Бярмудскага трохвугольніка вінаваты! — тлумачыў потым старшыня сельсавета. — Перашкодзілі, халера на іх, аўкцыён правесці ды прадаць зямлю ўсім жадаючым!» Але стоена маўчыць пра тое, што з-за гэтага мясцовы бюджэт недаатрымаў каля 160 мільёнаў рублёў.

Цікава, куды іх телепартаваў Бярмудскі трохвугольнік? Няўжо ў нечыя кішэні?..



## Калі не спіцца...

***Мінск.*** Не ведаў, што рабіў дырэктар сталічнага прыватнага прадпрыемства, калі па фіктыўных дакументах наўмысна занізіў падатковую базу прадпрыемства. У выніку ў 2006–2009 гадах дзяржбюджэт атрымаў дэфіцыт у суме амаль 242 мільёны рублёў, а сам кіраўнік — пакутлівае бяссонне. Толькі падушка ведае, колькі абаротаў вакол уласнай восі рабіў дырэктар штоноч, не-не ды і прыпамінаючы махлярства. І не дарэмна круціўся: следчыя выявілі яго фінансавую крутню. Цяпер дырэктар зноў не спіць: вывучае Крымінальны кодэкс...

## Мары пра даляры

***Гродна.*** Чаго толькі не калекцыяніруюць людзі: маркі, паштоўкі, статуэткі!.. А вось некаторыя любяць збіраць «паперкі» — зялёныя, блакітныя, чырвоныя... І вельмі радуюцца, калі ўдаецца набыць замежныя банкноты па сходной цане або з некім абмяняцца!

Вось і адзін мясцовы жыхар захапляўся такім калекцыяніраваннем. Калі супрацоўнікі ўпраўлення Дэпартамента фінансавых расследаванняў КДК злавілі яго на чарговым абмене «паперкамі», давялося паказаць усю калекцыю. У ёй было каля 3, 5 тысячы долараў, 3 тысячы еўра, 340 тысяч расійскіх рублёў, 70 польскіх злотых...

Дакладна невядомы далейшы лёс гэтай калекцыі, але да ўладальніка яна напэўна не вернецца ў бліжэйшыя некалькі гадоў. Мары пра даляры давядзецца забыць.

## Нахімічыў

***Кобрын.*** Чысцюткае золата навучыўся здабываць са звычайнага жалезнага купарвасу адзін мінчанін. Для гэтага яму спатрэбіліся не хімічныя прылады і не алхімічныя заклінанні, а — прадпрымальнасць, з якою ён без належнай ліцэнзіі пастаўляў у 2008–2010 гадах на прадпрыемствы Брэсцкай вобласці тоны жалезнага купарвасу ў якасці каагулянту для ачысткі вады. Незаконны даход у памеры каля 147 мільёнаў рублёў і ўвага адпаведных органаў змусяць алхіміка на некаторы час папрацаваць над пошукамі філасофскага каменю ў месцах, куды Макар цялят не ганяў.



***Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.***

## Віншуем!

# Міхасю УЛАСЕНКУ — 75!



*У кагорце сённяшніх гумарыстаў і сатырыкаў імя Міхася УЛАСЕНКІ даволі прыкметнае. Узяцца за пяро аўтара аднойчы змусіла ўменне «вастрасловіць» ды ўдумны, прыдзірлівы зрок. У свой час Міхась Аляксандравіч шмат падарожнічаў па гарадах і вёсках былога Саюза, цяпер жыве і творыць у Горках, працуе ўласным карэспандэнтам абласной газеты «Зямля і людзі».*

*У сваёй кнізе «Дробязі жыцця» М. Уласенка назваў сябе «правінцыяльным задзіракам». І, відаць, нездарма, бо знаходзіць у жыцці столькі нечаканага і смешнага, што бачаць і не заўважаюць іншыя. Яго трапныя, калючыя, смешныя, па-філасофску мудрыя сатырычныя мініяцюры, эпіграмы, пароды, гумарыстычныя вершы добра вядомыя чытачу.*

*«Вожык» шчыра віншуе свайго аўтара з юбілеем, зычыць яму моцнага здароўя, творчай задзірыстасці і плёну.*






* * *

Колькі грошай дзялку ні давай —
Яму мала. Скажу без прыязнасці:
У яго сэрцы струменіць праз край
Пачуццё крымінальнай адказнасці.

* * *

Не вадзіся з катом,
Што віляе хвастом.
Сцеражыся ката,
Што не мае хваста.



* * *

Навязваюць нам новы стыль
Праз наша, роднае, сваё:
Ужо стварылі ё-мабіль,
Далей што будзе, ё-маё!

* * *

О, колькі сілы, сэнсу
У асобе экстрасэнса:
Пусціўшы біятокі,
Ён зняў з мяне сурокі,
І вызваліў ад псоты,
Убачыўшы банкноты.



* * *

Прайшла адмыслова
Клубная тусоўка:
Найперш было слова,
Потым — недамоўка.

* * *

Да яе ніхто не туліцца,
Бо характар — не пярэч!

Была дзеўкай
на ўсю вуліцу,
Стала бабай
на ўсю печ.

* * *

Багатым быў — купаўся ў славе,
Радня любіла, землякі.
Цяпер збяднеў. Сяджу на лаве.
Сябры пытаюць: «Хто такі?»

* * *

Я шумеў, пароў гарачку...
Зразумеў, пражыўшы век,
Што нячуйка і нябачка —
Самы добры чалавек.






Малюнак Леаніда ГАДУНА.

## Думкі ўголас

► Той, у каго добра падвешаны язык, рэдка апускае рукі.

► Камень за пазухай не замінае падымацца ўверх па службовай лесвіцы.

► І горкія п'яніцы мараць пра салодкае жыццё.

► Калі ў душы дрэмле талент, не спі ў шапку!

**Даслаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*







Братка Вожык! Нездарма кажуць: «Век жыві — век вучыся». Вось і я, хоць пражыў на свеце нямала гадоў, а не ведаў, што каб купіць штаны, трэба памераць... абхват грудзей! Але на гомельскім ААТ «Коминтерн» упэўнены, што без ведання гэтага параметру мужчынскія штаны набываць нельга. Таму побач з паказаннямі росту і абхвату таліі значыцца абхват грудзей.

Можа ты, Вожык, чуў пра такі новы стандарт? Ці на прадпрыемстве задумалі асвоіць выпуск штаноў з рукавамі? Вельмі чакаю адказу, бо ўсё ж хочацца навучыцца купляць штаны правільна.



**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*

Дарагі дружа Вожык! Пішу табе і сумняваюся, ці зможаш мне дапамагчы? Ёсць у мяне шасцігадовая ўнучка Лідачка. Мы з бацькамі яе любім, выхоўваем, добрыя казкі чытаем. А нядаўна дзяўчынку як падмянілі. Прыйшла дахаты, распранулася і давай на ложку качацца ды стагнаць, нібы на ёй чэрці ездзяць. Я да яе:

— Што з табой, унучачка?

— Нічога, бабуля, — адказвае Лідачка, — гэта я так у рэкламу гуляю.

— У якую рэкламу? Дзе ты яе ўгледзела? Мы ж з табою толькі «Калыханку» ды «Урокі цётухны Савы» глядзім.

— А я ў метро бачыла...

Тут я і ўспомніла, што ехалі мы разам з Лідачкай у метро, а там на вялікім рэкламным маніторы напраўду нейкая неадзетая дзяўчына тузалася. Сказаць па праўдзе, я да той рэкламы і не прыглядалася, бо была ўпэўнена, што адпаведныя работнікі метрапалітэна ніякіх непрыстойнасцей не прапусцяць.

І, ці паверыш, калючы сябра, так я раззлавалася на гэтых рэкламшчыкаў, што вырашыла пераканацца, ці напраўду тая рэклама непрыстойная. Пашыбавала ў метро. І роўна ў 8 гадзін 52 хвіліны 16 студзеня гэтага года на ўласныя вочы ўбачыла той самы кліп з раздзетай дзяўчынай. І курыла яна, і непрыстойна дрыгалася. І круцілі-круцілі гэта відэа, аж глядзець не хацелася!

Як падказаў мне нейкі студэнцік, гэта быў рэкламны кліп украінскай музычнай групы «Акіян Эльзі», якая прыехала ў Мінск і такім чынам запрашала нас на свой канцэрт. Як для дарослых, дык кліп як кліп. І не такое сучасныя артысты на экране вырабляюць. Але ці можна лічыць метро месцам, дзе варта з раніцы дэманстраваць такія сумніцельныя для дзіцячай псіхікі рэкламныя ролікі? Ці дапаможаш ты мне знайсці адказ, дарагі сябра?..

**Галіна ПІНЧУКОВІЧ,**
*г. Мінск.*



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Юрыя МІХАЙЛАВА.



Павел **САКОВІЧ**

# ПАСРЭДНІК НЕПАСРЭДНА СВОЙ

Фельетон

Дырэктар думаў за абедам:
«Пасада важная мая,
А што далей? О каб жа ведаў,
Ці доўга тут прабуду я?

Яшчэ да пенсіі далёка,
Гады ж ляцяць, нібыта дні.
Таму мне трэба крок за крокам
Шырэй пускаць тут карані.

Маіх нашчадкаў — сына, дочку
Пара ўжо бізнесу вучыць.
Ёсць у сястры сыны-дубочкі,
Пра іх таксама як забыць?

Пасад вось толькі адпаведных
Не хопіць у мяне для ўсіх.
Ды штосьць прыдумаю для бедных
Крывінак родных, дарагіх».

Дырэктар думаў і «прыдумаў» —
Калега-сябар падказаў:
«Тавар збываць заводу тлумна?
Дык ты б пасрэднікаў наняў».

«Ага, пасрэднік мне патрэбны,
І з рэпутацыяй такой,
Каб ён не быў якісь пасрэдны,
А лепш, каб непасрэдна свой!

З чаго пачаць мерапрыемства?
Тут варыянтаў розных шмат.
Стварыць малое прадпрыемства?
З вялікім будзе акурат!

Ці, можа, зробім таварыства —
Радня ж там цалкам заадно,
А каб было ўсё шыта-крыта,
Закрытым будзе хай яно.

А хто баіцца пакарання,
Ёсць таварыства для таго —
З адказнасцю абмежаванай...
Што возьмеш, сапраўды, з яго?

Прыдумаў нехта ўсё талкова —
Не падкапаешся, ані, —
Каб даць заробак дадатковы
Сабе і дарагой радні».

Калі дырэктар быў гатовы
Структуры розныя стварыць,
Дык выйшаў тут загад суровы:
Такіх пасрэднікаў — закрыць!

Прапалі ўсе намеры, планы,
За што так пакараны ён?
Дырэктар выпіў валяр'яну...
А, можа, гэта... толькі сон?

Калі то сон быў сапраўды,
Няхай ён спраўдзіцца тады!



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Дунькі ШЫП.




Анатоль **ГАРАЧОЎ**




Хоць не лічу сябе эстэтам,
І не хаджу на аперэту,
Ды праспяваю «серэнаду»
Пра зорак нашае эстрады.

Не так даўно — у час застойны —
Яны вялі сябе прыстойна.
Прыгожыя спявалі песні,
І ў кожнай зале было цесна.

Цяпер спявачка ледзь не голай
Выходзіць паказаць не голас —
Жывот, азадак, грудзі, ножкі,
І не бярэ яе страх боскі!

Паводзячы сябе нясціпла,
Паказваюць спявачкі прыклад,
Каб пераймалі іх манеры
Быць бессаромнымі без меры.

Мне на душы агідна, горка,
Што ёсць у нас такія «зоркі».
Абражаны я вельмі гэтым,
Хоць не лічу сябе эстэтам.

*Іўеўскі раён,*
*в. Доўнары.*




АХ, гэта поп-музыка! Яна гучыць усюды. Адным – падабаецца, другім – не. А трэцім, як мне, усё адно: хай сабе брынчыць, абы не перашкаджала. Але з нядаўняга часу – перашкаджае. І ведаеце, чаму? Бо я пачала ўважліва ўслухоўвацца ў тэксты сучасных поп-песень.

Вось вы, напрыклад, чулі песню Анжалікі Агурбаш «Муха»? Гэта новая версія (па-сучаснаму кажучы, рэмейк, а ў дадзеным выпадку, прабачце, інтэртрэпацыя) вядомай дзіцячай казкі Карнея Чукоўскага «Муха-Цакатуха». Якое шчасце, што калі я была маленькай, такога і ў завадзе не было! *«Как-то Мухе из Китая / Прислала Тётя Муха чай. / Созвала всех по нету, / Прилетели, а нету – / Самовара-то нету! / Пулей Муха на базар / И купила самовар. / А когда назавтра шла, / Муха денежку нашла – / Миллион!!!»* Але, зрабілі з мухі слана!

А новая песня спявачкі Б'янкі «А чё, чё»! Паслухаўшы яе ўпершыню, я нават узрадавалася, што цяпер дзяўчына заваёўвае не наш, а расійскі шоу-бізнес. *«Ты такой ой-ой, / что хочется... / но я на мобильном, / мне по барабану. / Типа я недотрога / и ты супермачо / играем, играем. / а чё-чё».* Так і свярбіць язык адказаць у той жа танальнасці: «А ничё!» Нічога вартага ні слыху, ні розуму, ні сэрцу.

Увогуле, схема амаль усіх поптварэнняў надзвычай простая: 2–3 куплеты (звычайна па 4–6 радкоў) і прыпеў (ад 3 разоў да бясконцасці: усё залежыць ад таго, колькі доўжыцца песня). Напрыклад, адна з песень Сашы Нема называецца «Давай на всё забьём». За няпоўныя тры хвіліны, якія гучыць мелодыя, гэта фраза згадваецца 19 разоў! Але такі «рэкорд» адразу гасне, калі чуеш песню расійскай спявачкі Вікторыі Дайнека «Я буду лучше». Там гэта самае «лучше» за тры з паловай хвіліны ўпамінаецца 33 разы! Аж пакуль дрэнна не стане!

А канцэртныя нумары, кліпы, падтанцоўка поп-выканаўцаў!.. Мой ідэал мужчыны, яго вобраз як галавы сям'і навекі згінуў, калі я ўбачыла кліп «I'm Just A Dancer» украінскай групы «Kazaky». Цяжка апісаць гэта відовішча, але паспрабую. Чатыры сімпатычныя хлопцы з макіяжам на твары, у легенсах, з аголеным торсам і на шпільках спяваюць на англійскай мове пра... Вось даслоўны пераклад: *«Моя мать говорила, что я должен стать врачом, / Мой отец говорил, что я должен стать шофёром. / Так послушайте, люди, – вот мой ответ: / Да, детка, я просто танцор! / Я просто танцор, / Я просто танцор, / Я просто танцор. / Да, детка, я просто танцор!»* Па-мойму, у народзе пра такіх танцораў звычайна кажуць, што ім заўсёды нешта перашкаджае...

Але не ўсё так дрэнна ў нашай сучаснай поп-музыцы. Узяць хоць бы песні Ані Шаркуновай. Яны меладычныя, лёгкія, словы ў іх не рэжуць слых, праўда, не заўсёды разумееш, пра што і з якой мэтай гучаць. Як, напрыклад, у песні «Белый флаг»: *«Из миллионов других найти свой путь. / Пусть слёзы хлынут из глаз и не вздохнуть, / Пускай надежда теряется, / И каждый пытается друг друга опять вернуть».*

Затое музычны гурт «Разбитое сердце пацана» спявае «канкрэтна». Хлопцы распавядаюць пра складаныя ўзаемаадносіны з дзяўчатамі і – увогуле пра жыццё. *«Полюбил девчонку я на свою беду. / Думал с ней остаться, / ведь лучше не найду. / Только о ней думал / и видел в своих снах, / Но мою любовь она развеяла, как прах...»*

Ах, як хочацца, каб усе бязглуздыя і недарэчныя песні нашых (і не толькі) поп-выканаўцаў як мага хутчэй пайшлі прахам, а замест іх з'явіліся прыстойныя песні, ад якіх спявала б душа і – не мерлі мухі!..



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ,**
*студэнтка 5-га курса аддзялення журналістыкі Інстытута парламентарызму і прадпрымальніцтва.*







Малюнак Пятра КОЗІЧА.

Уладзімір ЦАНУНІН

## Хто дэгустатар?

Невырашальная задача
Пячэ мяне, нібы агнём.
Рэклама ўсюды: «Корм сабачы
Смачнейшым робяць
з кожным днём!»

Не разумею да адчаю,
І ў мазгаўні бывае шторм.
Хто, падкажыце, вызначае,
Што стаў смачней сабачы корм?

*г. Вілейка.*




Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.









Малюнак Андрэя ПУЧКАНЁВА.



Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

**Віктар ЛОЎГАЧ**




Эксперыментальную базу «Круты заварот» ліхаманіла з-за даўгоў. На экстранным пасяджэнні сабраўся ўвесь штат. На парадку дня стаяла адно пытанне: «Дзе ўзяць грошы?» Дырэктар базы Яўхім Арцёмавіч запальчыва гаварыў больш за дзве гадзіны, але ніякіх накірункаў не вызначыў...

Раптам з залы пачулася:

– Зямлю запусцілі. Мех сеем – паўмяха збіраем!

– А кармы? Быльнік ды асака. Таму і надойваем па шклянцы!

– Калі апошні раз абнаўляўся аўтапарк? Як Сёмка з Ганкай жаніліся. А сёння ў іх ужо ўнукі...

– І кіраўнічы апарат раздзьмуты. Адзін на трактары ездзіць, а сем – улік вядуць!

– Ды і пра новыя гатункі забылі...

Яўхім Арцёмавіч выцер хусцінкай спацелы лоб і паставіў пытанне рубам:

– Гаварыце канкрэтна!

– А калі канкрэтна, – падняўся аператар машыннага даення Пятро Верас, – дык нам намеснік дырэктара па кармах і элітным развядзенні жывёлы патрэбны як сабаку пятая лапа. А яшчэ – намеснік па навуковым выкарыстанні тэхнікі, пяць бухгалтараў, шэсць эканамістаў, дзесяць заатэхнікаў... Пасад шмат, а прыбытку ад іх – нуль.

І ўсе дружна загулі:

– Скарачаць трэба кіраўнічыя штаты, уразаць!

– Урэжам! – цвёрда паабяцаў дырэктар. – Перагледзім.

І перагледзелі. Вызвалілі трох слесараў, пяць даярак, шэсць трактарыстаў і аднаго агранома. А замест іх у штатаным раскладзе з'явіліся новыя пасады – намеснік дырэктара па актыўнай арганізацыі і правядзенні вытворчых сходаў і намеснік па актывізацыі вытворчай дзейнасці рабочых.

Яўхім Арцёмавіч з палёгкай уздыхнуў:

– Выканалі пажаданні рабочых. Урэзалі штаты. Цяпер будзем чакаць прыбытку!..

*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*




Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.




Малюнак Юрыя МІХАЙЛАВА.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.



# АДМІРАЛ
## беларускай карыкатуры

Жыццё **Алега ПАПОВА** багатае на падзеі. Пасля службы ў арміі ён «гуляў» на вяселлях: іграў, здымаў фільмы, фатаграфаваў (дарэчы, сёння Алег Віктаравіч іграе на бас-гітары ў ВІА «Вечная молодость»), потым працаваў токарам, слесарам, мастаком-афарміцелем, скончыў Маскоўскі завочны народны ўніверсітэт мастацтваў...

А яшчэ — вучыўся ў ваенна-марскім вучылішчы ў Ленінградзе. *«Калі курсанты цягнулі паперкі з магчымым месцам службы — Паўночны, Далёкаўсходні флот, я напэўна ведаў, дзе якая ляжыць, — прыгадаў для «Вожыка» эпізоды той пары Алег Віктаравіч. — Я ж быў мастак, таму і пісаць паперкі даверылі менавіта мне. Выцягнуў Чорнае мора. Але ўсіх курсантаў «цяганіна» не задаволіла, і паўтарылі яшчэ раз. І тут я ўявіў, як прыгожа за Палярным кругам — паўночнае ззянне, цюлені, атамаходы... І — выцягнуў Паўночны флот. У выніку — Баранцава мора, падводная лодка, дом без вокнаў і дзвярэй, 40-градусны мароз і мокры вадалазны касцюм!..*

*Служба падводніка — небяспечная. Апускаюцца ўсе падлодкі, падымаюцца чамусьці не ўсе... Падчас першага апускання трэба, як вядома, піць ваду. І не чарку, як паказваюць у кіно, а — плафон ад лямпы. Праўда, п'юць усе — і адміралы, і маршалы, і матросы. Я свой выпіты плафон пераварваў доўга, але супакойваў сябе тым, што вада з Баранцавага мора — халодная, а вось тым, хто апускаўся на Чорным моры летам — цяжэй намнога...»*




**Алег ПАПОЎ**




«Народны» мастак.





*Бліц-апытанне*

☺☺☺

**— Гумар ці сатыра?**
— Гумар.

☺☺☺

**— Лета ці зіма?**
— Лета.







«Народны» адмірал.

☺☺☺

**— Мінор ці мажор?**
— Мажор.

☺☺☺

**— Кніга ці тэлевізар?**
— Тэлевізар.

Загартаваны Баранцавым морам, А. Папоў з галавой акунуўся ў мора карыкатуры. І трымаецца на плыву ўпэўнена і свабодна. Намаляваў незлічоную колькасць высакакласных карыкатур. *«Друкаваўся ва ўсіх вядомых выданнях краіны, выпісваў усе цэнтральныя газеты. І ў пачатку 90-х, калі яшчэ ніхто не чуў пра дэкларацыі сваіх даходаў, дадрукаваўся да таго, што мной зацікавілася падатковая інспекцыя. Разабраліся мірным шляхам...»* — смяецца сёння вядомы мастак-карыкатурыст.

А мы ўсміхнёмся, гледзячы на новыя малюнкі Алега Папова.




☺☺☺

**— Кот ці сабака?**
— Сабака.



«Народны» музыкант.






☺☺☺

**— Салодкае ці салёнае?**
— Ні тое, ні другое.







☺☺☺

**— Дзень ці ноч?**
— Дзень.

☺☺☺

**— Трагедыя ці камедыя?**
— Камедыя.





*«Гумарыстамі не нараджаюцца. Гумарыстамі становяцца неўпрыкмет. Самы сур'ёзны чалавек можа раптам ні з таго ні з сяго кінуцца ў гумар. І калі ён да гэтага быў пісьменнікам, то абавязкова пачне пісаць весела і смешна, – сцвярджаў Мікола Ваданосаў у прадмове да кнігі гумарэсак, фельетонаў і пародый Хведара Жычкі «Спагадлівыя людзі» (1977), якая выйшла ў серыі «Бібліятэка «Вожыка». – Нешта падобнае здарылася і з Хведарам Жычкам. Пісаў ён спачатку лірычныя вершы і паэмы... Пасля «здзяцінеў» – пачаў пісаць прозу для дзяцей... Аднойчы нават напісаў нават кнігу аб правілах вулічнага руху. Прынёс у выдавецтва і патрабаваў, каб ёй далі «зялёную вуліцу».*

*– А ты, аказваецца, гумарыст, – сказаў яму рэдактар.*

*– Няўжо?! – абрадаваўся аўтар і стрымгалоў, не зважаючы на чырвонае святло светлафора, пабег у «Вожык»...»*

*З гэтага жарту і пачалося яго сяброўства з сатырай і гумарам. Аўтар часта з'яўляўся на старонках часопіса і пад сваім прозвішчам, і пад псеўданімамі. Напісана было шмат. Гэтым разам хочацца ўзгадаць некаторыя гумарыстычныя творы Хведара Змітравіча Жычкі, якому ў гэтым месяцы споўнілася б 85 гадоў.*

**Хведар ЖЫЧКА**

## ЗАЛАТАЯ СЯРЭДЗІНКА

### Парады маладым аўтарам

Пішаш, браце, прозу – тоўстыя раманы?
Не спяшай з канфліктаў гарадзіць гарод,
Лепш, калі сюжэцік будзе твой туманны:
Ні тупы, ні востры – нешта пасярод.

Ты – паэт?
Запомні, ехаць рызыкоўна
На кантрастах рэзкіх – каламазь і мёд...
Хай герой лірычны будзе памяркоўны:
Ні змагар, ні мямля – нешта пасярод.

Публіцыст ты, браце?
З тэмаю надзённай
Будзеш доўга біцца рыбінай аб лёд,
Чытачу дай сёння нізку сцэн будзённых:
Ні хлусню, ні праўду – нешта пасярод.

Для дзяцей ты пішаш кніжкі-маляванкі?
Не імкніся многа выдумляць прыгод,
Наскубі бадылля і пляці пляцянку:
Ані быль, ні казку – нешта пасярод.

Калі ж ты сатырык,
Вырывай з карэннем
Пустазелле злое, каб не выспеў плод,
І зрабі надзейным струмантам натхнення
Ні мятлу, ні вілы – нешта пасярод.

Крытыкай заняўся?
Што ж, служы прагрэсу,
Фіміямам словы акрапі ўмалот,
Будзь жа прынцыповым,
не пускай у прэсу
Ні ялей, ні доўбню – нешта пасярод.

Дык за працу, дружа!
Твор пішы і тут жа
Сам чытай, каб іншым не даваць турбот,
І лічы, што ты ўжо самабытны дужа:
Ні чытач, ні аўтар – нешта пасярод.

*1987 г.*





Малюнак Юрыя МІХАЙЛАВА.




Малюнак Леаніда ГАДУНА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.



Муж кажа жонцы:

— Ты ведаеш, дарагая, я запрасіў сёння да нас на вячэру свайго сябра.

— Якую вячэру?! — абураецца жонка. — У кватэры не прыбрана, халадзільнік пусты, дзіця хварэе!..

— Затое я ўратую лепшага сябра!

— Ад чаго?

— Ад жаніцьбы.



Малюнак Андрэя ПУЧКАНЁВА.



Пакупнік у кніжным магазіне звяртаецца да прадаўца:

— Парайце мне што-небудзь сучаснае, актуальнае, без нагрувашчвання дзеючых асоб, што-небудзь зразумелае, выразнае, кароткае, без лішніх дэталяў...

— Я, здаецца, зразумеў, што вам трэба, — перапыняе яго прадавец. — Купіце даведнік руху цягнікоў.

* * *

— Залаты гадзіннік, які я купіў у вас паўгода назад, не хадзіў і трох месяцаў! А вы казалі, што мне хопіць яго на ўсё жыццё!

— Прабачце, у вас быў тады такі кепскі выгляд...

# Навіны з МУС: матай на вус

## Адна нага тут...

***Магілёў.*** Набываючы ў магазіне «Індэзіт» пральную машыну, пакупнікі нават не падазравалі, што тая ўмее не толькі круціць барабан, але і — хадзіць. Пакуль яны афармлялі адпаведныя дакументы, грузчыкі вынеслі тэхніку на вуліцу. Калі ж пад'ехаў аўтамабіль для дастаўкі пакупкі на дом, машына... адышла. Ногі ёй прырабіў, як паказалі потым камеры відэаназірання, мясцовы жыхар.

Куды пральная машына пайшла далей, малады мужчына міліцыянерам не сказаў. Калі ж працверазеў і змог стаяць на нагах, патлумачыў, што прадаў, а каму — не памятае.

Цяпер яму «свеціць» да трох гадоў пазбаўлення волі. Дастаткова часу, каб успомніць...

## Двое двойчы

***Мінск.*** Мудрацы сцвярджалі, што нельга ўвайсці ў адну і тую ж раку двойчы. З гэтым не пагадзіліся двое злодзеяў і абрабавалі аднаго і таго ж мінчаніна, жыхара Заводскага раёна, ...двойчы. Спачатку ўкралі ў яго грошы і ключы ад кватэры, а затым наведаліся да яго дахаты і сцягнулі ноўтбук. Не трэба быць мудрацом, каб здагадацца, што за такі грабеж і адказ будзе «двайны».

## Такія розныя сустрэчы

***Магілёўскі раён.*** Звычайна былыя аднакласнікі сустракаюцца ў школе на вечары сустрэч. А вось гэтыя былыя аднакласнікі спатkаліся ў банку. Яна працавала касірам мясцовага аддзялення «Беларусбанка», ён, прадпрымальнік, жыхар вёскі Усход, прыйшоў... грабіць банк. Схаваўшыся вечарам у будынку, дачакаўся, пакуль касір пайшла да выхаду, і аглушыў яе. Але былога аднакласніка жанчына паспела пазнаць.

Сустрэча аказалася не вельмі прыемнай. Цяпер налётчыка чакае іншае спатканне — з турмой...

***Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў.***

Віншуем!

**Сяргей ВОЛКАЎ**






# Юбілей «па-вожыкаўску»!

Летась «Вожык» адзначаў 70-гадовы юбілей, атрымліваў віншаванні з усіх куткоў Беларусі. А сёлета ў сакавіку 70 гадоў споўнілася Сяргею Анатольевічу ВОЛКАВУ – вядомаму мастаку, карыкатурысту, заслужанаму дзеячу мастацтваў БССР. Як сапраўдны вожыкавец, ён і юбілей адзначыў, лічы, разам з «Вожыкам». А як інакш, калі яго бацька Анатоль Валянцінавіч Волкаў, знакаміты графік і жывапісец, быў звязаны са славутым выданнем усё жыццё? У 1944–45 гг. А. Волкаў працаваў у вядомай газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну», а пазней – аж да самай смерці, 1985 года, – супрацоўнічаў з часопісам «Вожык».



1971 г.

– Бачыш, як добра: Васька вучыцца на спевака, Мурка – на піяністку, Кіска – на скрыпачку, Рыска – на мастака...

– А хто ж мышэй лавіць будзе?




2006 г.

– Папрацавалі, бачыш, людзі –
Рапартаваць прыемна будзе!




1972 г.

Несп




– Што ты тут шукаеш?

– Па звычцы кінуў сюды добрую дэталь.

1973 г.

Вачыма дзяцей






Творчы дэбют С. Волкава адбыўся ў 1960 годзе, калі ён быў яшчэ студэнтам мастацкага вучылішча. Малюнак у нашым часопісе стаў вышэйшай узнагародай. Хоць першы ганарар юнак атрымаў раней, у 1955 годзе. І таксама ў «Вожыку»: прыдумаў тэмы для карыкатур. Але паколькі сам яшчэ ў карыкатуры нічога не кеміў, малюнкі выканалі іншыя мастакі... Сяргей Анатольевіч — аўтар больш чым ста сатырычных плакатаў, серыі сяброўскіх шаржаў, шматлікіх карыкатур. Таму нездарма ў 2007 годзе стаў лаўрэатам прэміі імя Кандрата Крапівы за вокладкі, апублікаваныя на старонках часопіса «Вожык».

Адзіным кумірам для Сяргея Анатольевіча заўсёды быў бацька. А асноўным запаветам — яго парада ніколі не шкадаваць сваіх малюнкаў. Здаецца, што малюнак не дацягвае да ўзроўню? Без роздумаў кідай у сметніцу! Бо ўсялякі наступны будзе ў любым выпадку лепшым. Гэтым прынцыпам заўсёды кіраваўся сам Анатоль Валянцінавіч. І яго сын рабіў гэтаксама. Бо для яго быць Волкавым азначала вялікую адказнасць. І Сяргей Анатольевіч годна працягнуў славутую дынастыю Волкавых, справу дзеда і бацькі... Застаецца спадзявацца, што ўнукі Фёдар і Даша стануць наступнымі ў родзе мастакоў Волкавых!

«Вожык» шчыра віншуе свайго адданага сябра, шаноўнага лаўрэата, паважанага члена рэдкалегіі з «вожыкаўскім» юбілеем, жадае яму творчага плёну, моцнага здароўя і — вясёлага настрою на доўгія-доўгія гады!



1969 г.

— Кажуць, што ў нас аднастайны абутак, а тут і адной пары не падбярэш.



...партыўны крок.


1977 г.

— Бач ты, на выгляд культурны чалавек, а разлічыўся капейка ў капейку.


1970 г.

— Вось гэта грыва!



1974 г.



2007 г.



# Бацькі і дзеці






Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнкі Алега ПАПОВА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Андрэя СКРЫННІКА.






Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.







Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Антон ПІЛІПЧЫК**

# Хведараў бізнес

### Апавяданне

Адзінокі вясковы пенсіянер Хведар Дылька ў нястачы не гібеў, але і ў багацці не купаўся. А хацелася жыць шыкоўна, і задумаў чалавек наладзіць бізнес.

— Некалі я ў пагранчасці служыў, кінолагам быў, — тлумачыў ён суседу Міколу Ахрэмчыку, які здзівіўся, убачыўшы на падворку ў Дылькі адразу аж чатырох шчанюкоў. — Дрэсіраваць буду сабак і прадаваць... У мяне ў войску сабака не толькі след парушальніка граніцы браў, але і хадзіў на дзвюх лапах. Вітаўся, як мы з табою, і пры гэтым толькі правую падаваў, папярэдне яе абцёршы...

— Вось табе на! — з усмешкай выгукнуў Мікола.

— А ты не восьтабенакай! — передражніў Хведар. — Падумай, што потым запяеш, калі гэтыя цюлікі закончаць маю школу і будуць, нібы акрабаты ў цырку, выштукоўвацца? Такога і сам захочаш мець. Але я, ведай, за так не аддам! Толькі за «зялёненькія».

— Ну-ну... Гадуй, дрэсіруй, вучы... Пэўна ж, займееш потым «бабак». Бізнес, так сказаць... — у душы сусед, канешне ж, яшчэ больш пасмяяўся з дзівака: «На старасці гадоў зусім з глузду з'ехаў. На сабаках, ці бачылі вы, разбагацее... Смех, дый годзе!»

— І не сумнявайся... — адстойваў сваё Хведар.

— Ну-ну, дажыць бы і пабачыць... Асабліва, калі пабагацееш, — завяршыў размову Ахрэмчык, крыва ўсміхаючыся.

Але неўзабаве ніхто іншы, як сам Ахрэмчык, з зайздрасцю цікаваў, як кожны са шчанюкоў што толькі не вырабляў перад Хведарам па ягоных загадах. Стрымгалоў нёс у зубах свайму гаспадару палку, якую той кідаў чым далей, ці ўвогуле хаваў дзе-небудзь у садку; бясстрашна караскаўся на бервяно, узнятае на слупах высока над зямлёю; скакаў цераз перашкоду, нават калі тая гарэла; хадзіў на задніх лапах і нават прытанцоўваў; падаваў сапраўды правую для здароўкання лапу...

«Кінолаг» — толькі так і называў цяпер Ахрэмчык свайго суседа. А той аднойчы паклікаў яго на свой «вучэбны палігончык» і папрасіў апрануць бурнос

Працяг «Бізнесу» на старонцы 16.




з доўгімі, аж да самай зямлі, рукавамі, і пусціцца наўцёк. Мікола не паспеў і колькі метраў прабегчы, як пасля Дылькавай каманды «фас!» быў літаральна збіты на зямлю сабакам, што скочыў яму на плечы. Хведар тут жа крыкнуў «фу!» — і сабака мірна разлёгся побач з «затрыманым». Праўда, калі Мікола злёгку варухнуў нагою, злосна забурчэў...

Праз пару дзён Дылька зазірнуў да Ахрэмчыка ў хату і прапанаваў:

— Можа, прагуляемся, сусед, да крамы? Піўка пап'ём... Я ж завінаваціўся табе за дапамогу ў навучанні цюцькаў. А сёння якраз пенсію атрымаў...

Ці ж хто адмовіцца ад дармовага?!

І па дарозе ў магазін, і, калі вярталіся назад, адзін з чатырохлапых «сяброў чалавека» нёс у зубах Хведараву авоську. Ну, да магазіна — хай сабе: парожняя ж. А дамоў — дык напакаваную хлебам, соллю, цукрам, макаронамі, крупамі, алеем...

— Ну ты, сусед, і педагог! Самы што ні на ёсць прафесар! Бачу, сабачую псіхалогію вывучыў дасканала. Гэта ж такі цяжар валачэ!.. Як чорт добрую душу... — Мікола паддобрываўся да Хведара. Яшчэ б: бізнесменам хутка стане, тады не толькі на піўко адшкадуе «зялёненькіх» для суседа!..

З лёгкага языка Ахрэмчыка хутка ўся вёска ведала, якія разумныя растуць у Хведара «барбосы». Высокі імідж знешне звычайных дварнякоў узрос яшчэ больш. Казалі, што яны ў Дылькі ледзь не лыжкай з міскі суп сёрбаюць, і нават, як мядзведзі ў цырку, на веласіпедзе ездзяць, а таксама — венікамі падворак падмятаюць... Калі са сваімі «навучэнцамі» Хведар ладзіў чарговыя заняткі (замацоўваў, як потым тлумачыў, рэфлексы і развіваў прыроджаныя інстынкты), вароты і плот ад вуліцы былі літаральна ўвешаны вяскоўцамі...

Дачуўшыся пра «сабачую» школу Дылькі, спецыяльна прыехаў старшыня мясцовага сельгаскааператыва. Нават аднаго спрытнага цюцьку ўпадабаў сабе. Загарэўся купіць, ды Хведар параіў не спяшацца.

— Ведаеце, — патлумачыў ён, — зіма на носе, а я «звяругу» хацеў бы навучыць і паляўнічай справе: зайцы, лісы, курапаткі... Няхай ужо грунтоўна засвоіць усю праграму. Каб потым было без збояў... Карацей, вясною старгуемся...

Зіма неўзабаве як пачалася, так і скончылася. Пастрашыў крыху люты маразамі — і запахла вясною.

Неяк раніцай выйшаў Дылька на падворак, а ў будках (уласнаручна для сваіх выхаванцаў змайстраваў, у стылі шанхайскіх пабудоў) — пуста! Толькі матузкі, якімі сабак прывязваў, на ветрыку пагойдваюцца... «Ой-вой-вой! Укралі! Спёрлі мой тавар, гатовы да рэалізацыі!» — заенчыў кінолаг. У вачах пацямнела, а сэрца затахкала, як шалёнае. «Ой-вой-вой! Скончыўся мой бізнес! Цяпер іх з сабакам не знойдзеш!..»

Раптам Хведар пачуў нейкі слабы віск. Напружыў вочы — і ў самым аддаленым куточку саду згледзеў тых, з-за каго толькі што ледзь інфаркт не атрымаў. Калі ж наблізіўся да сабак, аж рагатнуў: «нявеста», ці бачыш, «жаніхоў» заманіла!.. Злосць разабрала Хведара на прыблуду, схапіў нейкую палку і пачаў адганяць няпрошаную госцю. Ды тая ўцякаць не збіралася, ашчэрылася. Разам з ёю свае клыкі паказалі з працяжным, злосным «гыр-р-р-р...» і ягоныя цюцькі...

Зноў замахнуўся палкай — і толькі горш зрабіў. Залётніца разлютавалася і ўчапілася зубамі за штаны, пачала тузаць. Хведар ні на жарт расхваляўваўся: не дай божа зараз усе накінуцца! Што ў такім выпадку трэба рабіць, ён, былы армейскі кінолаг, ведаў. Лёг тварам уніз на зямлю і сцішыўся. Ляжыць, прыслухоўваецца: што будзе далей? Раптам адчуў, як па ягоных плячах пацякло нешта цёпленькае... І яшчэ раз, і яшчэ, і яшчэ...

Пакуль дома пераапранаўся, злосна сплёўваючы, і прыкідваў у думках, як вярнуць на свае месцы сваволльнікаў, ад сабачай зграі ў садзе і след прастыў. Кінуўся шукаць, паклікаў: «Шарык!», «Бурык!», «Рэкс!», «Тузік!» — дарэмна! Засмучаны, супакоіў сябе: «Ат, куды яны дзенуцца — вернуцца!..» Але мінуў дзень, надышла ноч — ні слыху ні дыху. І тыдзень прайшоў, і месяц — цішыня...

Тое, што не стала на падворку ў Дылькі хваленых вучоных сабак, першым заўважыў, вядома, сусед.

— Няўжо старшыня сельгаскааператыва ўсіх чатырох купіў? Ты ж, здаецца, абяцаў яму аднаго прадаць, ды і то вясной? — дапытваўся Мікола ў Хведара. А ў самога — вочы прыжмураныя, на вуснах — хітраватая ўсмешка гуляе.

«Можа, бачыў што, гіцаль гэты? Альбо датумкаў? Ці проста так, прыкідваецца?..» — скрушна меркаваў Хведар.

— А ты — хітрэц! — працягваў Ахрэмчык. — Цішком тавар збыў, мех «зялёненькіх» адхапіў і сядзіш спакойна, маўчыш... Калі ж піўко піць будзем?

Дылька, абы каб адчапіцца ад суседа, нехаця адказаў:

— Будзем! Хутка... Праз пару дзён паштарка пенсіі прынясе. Па рубліку скінемся і пасунемся ў магазін.

«Вось жмінда! — падумаў Мікола. — Шкадуе «зялёненькіх». Але нічога, я цябе «раскручу»!..»

Неўзабаве Хведар і Мікола атрымалі пенсіі. Скінуліся на паўлітэрку «лепшай». Селі за стол... Пра тое, што ў рэшце рэшт атрымалася з «сабачага» бізнесу, Дылька са шкадаваннем разважыў так:

— Бізнес, Мікола, — няпростая справа. Не ўлічыў нейкую акалічнасць — і ўсё, прапала! Разумееш, браце, вясна неяк неўпрыкмет наскочыла, а я, дурань, не пра ўсё падумаў...

— Але, — згадзіўся захмялелы Мікола, — наскочыла... Тут прырода. Супраць яе не папрэш.

— Рызыкоўная справа — гэты бізнес! — сумна крахтануў Дылька.

— Рызыкоўная, — падтакнуў сусед і крыва ўсміхнуўся...

*г. Іўе.*






Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.




Малюнак Анатоля ГАРМАЗЫ.

## АБ’ЯВЫ ДЛЯ РАЗЯВАЎ

### Люблю мачанку

Без лішніх слоў: мне 38 гадоў. Па гараскопе – Вагі, хлопец неблагі. Але вагаюся, працаваць пакуль не збіраюся. Даўно не голены. Буду задаволены, калі знойдзецца гаражанка, што ўмее гатаваць мачанку. Маю памяркоўны нораў. Жора Чарнагораў.

### Ажанюся на кватэры

Нядаўна мне (на маё здзіўленне) споўнілася 30 гадоў ад нараджэння. Не разлічваю на дзяўчыну, вазьму ў жонкі і жанчыну. Кажу нешматслоўна: будзем жыць памяркоўна. Я не ліхадзей, папытайцеся ў людзей. Мой адрас пэўны: Васілёк Бескватэрны.

### Бульба па бартару

Куплю бульбу па любой цане. Грошай няма ў мяне. Магчымы бартар узамен на мужа. Не працуе, хоць і дужы. Па адрас звяртайцеся ў міліцыю, муж там пастаяльцам лічыцца. Надзея Надзеева.

### Падоўжыце жыццё!

Для грамадзяніна любой нацыі даю наступную кансультацыю: як без лішніх слоў пражыць сотню гадоў. Пастаяннага адраса не даю: бываю надта заняты, таму пытайцеся па кватэрах і хатах Міхея Ліхадзея.

### Асвяжую за бясцэнак

Гарантую напэўна: засяку пеўня. Аплата – як і было: кумпячок і крыло. Завалю вепрука адразу, нават не пісне ні разу. Мая нязначная доля – літр алкаголю, смачная вантрабянка ды каўбас вязанка. На тым уся рахуба. Прозвішча маё Заруба.

**Прачытаў Лявон АНЦІПЕНКА,**
*г. Шклоў.*




Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.



Малюнак Леаніда ГАДУНА.



Янка
ГАЛУБОВІЧ

# Чаму мядзведзь бярозавіка не любіць

*Казка*



Пад вечар захаладала. Падзьмуў моцны вецер. Ратуючыся ад холаду, скокнуў зайка ў ямку пад ядлоўцавы кусцік, скруціўся клубочкам і заснуў.

А раніцою прачнуўся і нічога зразумець не можа. На сінім з бялявымі пражылкамі небе сонейка свеціць. У яго цёплых промнях ствалы бярозак пазалаціліся. З пагорка ручайкі бягуць. Каля пнёў тонкія іголачкі зялёнай травы прабіліся. Сіняватымі коцікамі набрыნялі пупышкі вярбы.

Выскачыў зайка з-пад ядлоўца дый чуе: тук-тук-тук... Глядзіць, ажно вялікі стракаты дзяцел на бярозе сядзіць. Усё барабаніць і барабаніць па ствале доўгай дзюбай, адтулінку робіць.

«Гэта ж сакавік дрэвам сок пускае. Вось і дзяцел зараз бярозавіка пакаштуе», — здагадаўся зайка.

Стаіць зайка пад бярозаю, вачэй з дзятла не зводзіць. Надта ж і яму захацелася сокам паласавацца. Папрасіў ён дзятла, і той не адмовіў, таксама выдзеўб адтулінку ў бярозе. Амаль ля самай зямлі, якраз па зайкавым росце.

З адтулінкі закапалі буйныя, што гарошыны, кроплі соку. Зайка стаў на заднія лапкі, пярэднімі ў бярозу ўпёрся, а язычок пад адтулінку падставіў. Ловіць ім кропелькі бярозавіку і ажно жмурыцца ад асалоды.

Напіўся зайка бярозавіка, ужо хацеў з палянкі бегчы, але ўбачыў, што да яго мядзведзь з сякераю клыпае.

— Куды ідзеш, Патап, што добрае скажаш? — пытае яго зайка.

— Ат, якое тут дабро! Учора ледзьве з рэчкі выбраўся, — махнуў лапай мядзведзь. — Берагі крутыя, высокія. Каб яшчэ крыху, то і ўтапіўся б. Іду во кладку рабіць.

— Які ты разумнік, Патап! — пахваліў яго зайка. — Зробіш кладку праз рэчку — і мне лягчэй стане ў авёс бегаць. Ужо забыўся, калі зярняткамі ласаваўся.

— Не бядуй, зай. Маё слова — закон. Будзе табе кладка праз рэчку.

— Пакаштуй, Патап, майго бярозавіка, — просіць зайка. Вельмі яму захацелася мядзведзю аддзячыць. — Кажуць, ён карысны надта. У ім розных вітамінаў шмат.

Лізнуў мядзведзь з адтулінкі некалькі кропелек бярозавіка і як зараве: «Мала, мала!» Ажно рэха па лесе пакацілася.

І застукала па бярозе сякера, толькі трэскі ў бакі паляцелі.

Зліжа мядзведзь кропелькі бярозавіка і зноў раве: «Мала, мала!..» А потым па бярозе сякерай дубасіць. Сіла ёсць — розуму не трэба.

Спалохаўся зайка мядзведзя, уцякаць стаў.

Глянула старая бяроза апошні раз на палянку, замахала галінамі, быццам рукамі, заплакала. Затрашчала, зарыпела ўсім целам і — надламалася.

# ЗАГАДКІ

## Лёля БАГДАНОВІЧ

Ходзіць ён у яркіх ботах
Па дрыгве ды па балотах.
Ёсць трава, а ён не косіць,
Немаўлят у дом прыносіць.
Здагадаліся вы, мусіць,
Называюць птушку ... .

(Бусел.)

## Янусь МАЛЕЦ

Наставіўшы іголкі,
Ляжыць клубок ля горкі.
Схаваў і нос, і ножкі,
Спужаўшыся нас трошкі.
Дарма баіцца гэтак,
Бо мы – не з дрэнных дзетак:
Мы знойдзем малака
Для вострага клубка
І з лісця зробім ложак,
Паспіць там, можа, .....

(Вожык.)

У бары, дзе снегу многа,
Для мядзведзя схоў – .......

(Бярлога.)

**Знайдзі на малюнку тыя кавалачкі, што выдзелены справа. Расфарбуй і падары сябру.**



А падаючы долу, смальнула камлём мядзведзю па патыліцы…

Цэлую ноч праляжаў ён пад бярозаю, ні зорак, ні месяца не бачачы. Калі ж на хутары трэція пеўні запялі, ачуняў крыху, вылез з-пад бярозы і ходу з палянкі.

З таго часу мядзведзь бярозы за вярсту абыходзіць, а бярозавіка ніколі не п’е. Усё болей лісцямі і карэнішчамі корміцца, ягадамі, арэхамі ды жалудамі ласуецца...

*г. Маладзечна.*





Малюнак Андрэя ПУЧКАНЁВА.

## Як Іван старасту правучыў

У адной вёсцы жыў скупы стараста. Унадзіўся ён ездзіць з Іванам у горад, бо шкадаваў сваіх коней. Івану абрыдла.

Аднойчы, едучы са старастам у горад, Іван кажа:

– Якое ў мяне гора, пане стараста...

– Што такое, Іван?

– Ды на тым тыдні мяне пакусаў шалёны сабака.

Пасля гэтых слоў стараста адсунуўся на край воза. А калі пераязджалі ўброд рэчку, Іван толькі:

– Гаў!

А стараста – боўць у ваду.

Выскачыў на бераг мокры і кажа:

– Вось, Іван, знайшоў дзе шалець...

Пасля гэтага больш з Іванам не ездзіў.



## «Набожны» бацька

– Пойдзем, куме, у царкву!

– Э, ці хто яго! Я не такі набожны, каб так часта хадзіць у царкву... От бацька мой, божухна, спакой яго душачцы, быў надта набожны! Бывала, калі царква і зачынена, то ён або падкапаецца, або акно выдзярэ, а ўсё-такі ўлезе.



## Бачыў, як пан еў

– Абаранкі, – кажа хлопец, – з параным малаком вельмі смачныя.

– Хіба ж ты еў?

– Я сам не еў, але дзядзька казаў, што бачыў, як пан еў.

## У якую старану?

Адзін дзядзька не ўмеў запрагаць каня, узяў ды паставіў яго задам наперад у аглоблі, мордай да воза.

А другі кажа:

– Ты ж няправільна запрагаеш.

Дык той:

– Адкуль ты ведаеш, у якую старану я паеду?



## Непадсудная

Суседкі пасварыліся, і Акуліна дала Агаце дулю. Агата падала ў суд. Але не «падмазала». Суддзя сказаў:

– За дулю не судзім.

– Не судзіце?.. То на ж і табе, пане суддзя, на і табе, падсудак, на і табе, член! – абдзяліла Агата ўвесь суд дулямі і пайшла дамоў.



## Разлічыўся

Ішлі лесам два вандроўныя гандляры. Раптам насустрач – разбойнікі.

– Рукі ўгору! Аддавайце грошы!

Паднялі гандляры рукі, а адзін з іх і кажа:

– Паны разбойнікі, дазвольце слова сказаць.

– Гавары, ды хутчэй!

Тады гандляр звяртаецца да тавարыша:

– Кум! Я табе яшчэ з Вялікадня тысячу рублёў вінен. Дык вось зараз аддаю – мы ў разліку. Паны разбойнікі, будзьце сведкамі.




Малюнак Андрэя СЛУЦКАГА.





Малюнак Міхася ДАНІЛЕНКІ.



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.

# Інтэрнэт: жартуе ўвесь свет!

:) :) :) :) :) :) :) :) :) :) :) :) :) :)



## АНЕКДОТЫ

Шэф – сакратарцы:
– Што вы робіце ў нядзелю?
Сакратарка (з надзеяй у голасе):
– Нічога.
– Тады дазвольце нагадаць вам, што сёння не нядзеля!

* * *

Пасля палявання старшы склікае паляўнічых да кастра:
– Усе тут?
– Усе!
– Дзякуй богу! Значыць, я ўсё ж у зайца трапіў!



Мужчыны ў сямейным жыцці нашмат шчаслівейшыя за жанчын. Яны і шлюб бяруць пазней, і паміраюць раней...



Вадзіцель маршруткі, выпадкова заехаўшы на трасу «Формулы-1», выйграў гонку, паспеўшы яшчэ падабраць па дарозе двух пасажыраў.



Гардэробшчыца з 30-гадовым стажам можа па паходцы вызначыць, ёсць у чалавека пяцелька на паліто ці не.



Учора ў Маскве з-за страшэнных пробак у выцвярэзнік прывезлі ўжо цвярозага чалавека.







У Германіі прайшоў фестываль піва. Больш за ўсіх піва выпіў жыхар Тамбова Іван Іванавіч, які глядзеў фестываль па тэлевізары.



Старасць – гэта калі нагінаешся для таго, каб завязаць шнуркі на чаравіках, і задумваешся, што б тут унізе яшчэ зрабіць.



На пяты дзень вяселля толькі пасведчанне аб шлюбе выратавала гасцей ад блытаніны.



## АБ'ЯВЫ

• *Прадам пясочны гадзіннік з секундным струменьчыкам.*

• *Пераканаы халасцяк пазнаёміцца са сварлівай, непрыгожай і неахайнай жанчынай для ўмацавання сваіх перакананняў.*

• *Здам у арэнду паношанае адзенне і патрыманы «Запарожац» для паездкі ў падатковую інспекцыю. Дорага!*

• *Здыму вугал у любоўным трохкутніку. Тэрмінова.*

# Інтэрнэт: жартуе ўвесь свет!

:) :) :) :) :) :) :) :) :) :) :) :) :) :)





«Вось такога віруса ў мяне яшчэ не было!» – сказаў зяць, убачыўшы за камп'ютарам цешчу.





Раз у жыцці зайшоў у казіно з 5 рублямі, а выйшаў... з 200 доларамі. Да гэтага часу здзіўляюся, як гэта іх ніхто на падлозе не заўважыў!









Пацукі папярэдзілі капітана карабля, што ў іх вучэбная трывога.




У залежнасці ад інтанацыі адно мацернае слова аўтамеханіка Пятрова можа азначаць да 50 разнастайных дэталяў і прыстасаванняў.




Здавалася б, навошта забойцу забіваць забойцу забойцы, але Данцову было ўжо не спыніць...

## АНЕКДОТЫ

– Учора я быў на мясакамбінаце, бачыў, як робяць каўбасу: стаў вегетарыянцам. Сёння быў на малочным заводзе, бачыў, як робяць сыр: перайшоў на прадукты з соі. Затое на лікёра-гарэлачны камбінат мяне цяпер нічым не заманіш!

* * *

– Якія, Маня, у цябе прыгожыя ногі!

– Ты, Ваня, свае памый – такія ж будуць!

* * *

– І калі ён абяцаў з табою ажаніцца?

– У сакавіку.

– У сакавіку яны ўсе абяцаюць...





З учарашняга прагноза сіноптыкаў на сёння супала толькі: «Заўтра чакаецца...»



Да таго часу, пакуль не вынайшлі чыпсы, людзі вымушаны былі есці бульбу.




Жыццё дорыць нам мора шанцаў, а нам часта не хочацца плаваць.

## ЗАГАДКІ

– Чаму ў дзятла не баліць галава?

– Чаму суперклей не прыклейваецца да суперцюбіка?

**Адказы**

– Бо не п'е

– Гэта суперсакрэт




## УСМЕШКІ

### Памяркоўны хуліган

Вяртаўся я аднойчы з кірмашу дахаты. Раптам да мяне падышоў магутны п'яны мужчына, пацёр далонь аб далонь, затым сціснуў кулакі і рашуча прапанаваў:

– Давай біцца!

Я не разгубіўся:

– Бачыш, рукі ў мяне занятыя: у адной – торба, у другой – клункі. Можа, ты пашукаеш сабе іншага саперніка?

Ён крыху падумаў і пагадзіўся:

– Відаць, праўду ты кажаш.

На гэтым мы і разышліся...

### Жарт за жарт

Апоўначы мяне пабудзіў тэлефон. Хрыплы, прыглушаны голас у трубцы гнеўна запатрабаваў:

– Забярыце з балкона свайго сабаку! Брэша так, што заснуць немагчыма!

Хоць начны жартаўнік і стараўся змяніць голас, я пазнаў яго. Таму назаўтра апоўначы патэлефанаваў і такім жа, хрыплым і прыглушаным голасам патлумачыў:

– Я ўчора не паспеў сказаць, што сабакі ў мяне няма. Як, дарэчы, і балкона. Дабранач!..

Больш гэты жартаўнік мяне не турбаваў.

**Генрых ХАРЭВІЧ,**
*г. Мінск.*

### Розны слых

Сымону залажыла вуха,
Як пра крэдыт і крызіс слухаў.
Гучала з кожнае разеткі
І пра пакінутыя дзеткі.
А як пачуў пра нейкія працэнты,
Аж цвіў: «Скасуюць аліменты».
Ды радасць абарваў яму закон –
На дзетак церабі кішэнь, Сымон!..

**Вацлаў ХАДАСЕВІЧ,**
*г. Мінск.*




Пакуль твой прынц цябе сам знойдзе, дык і чакаць жаданне пройдзе.

* * *

На выгляд хлопец ты шыкоўны, ды ўзрост твой вельмі рызыкоўны.

* * *

Жарты, смешкі, анекдоты – ад самоты і ляноты.

* * *

Не ў прыгажосці шанц і слава: прыгажосць – вачам забава.

* * *

Калі жоначка нічога – не гняві, мой дружа, Бога. Шануй яе і даглядай, як заняможа – не кідай!




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.

* * *

Калі ты есці не гультай, тады на ежу налятай: які з цябе, браток, ядок – такі ж да маладзіц хадок.

* * *

Не шукай, Фядот, на сваю галаву прыгод.

* * *

Забудзь, мой дружа, пра аптэкі, бо жарты – гэта тыя ж лекі.

**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*

## Пазайздросціла

*З натуры*

Ганна лае Івана:

– І што ты за недарэка! Зноў брудныя боты на ганку пакінуў!

– Дык я, Ганначка, па гаспадарцы ўпраўляўся: кароўку падаіў, у хляве пачысціў, парсючкам есці даў... – апраўдваецца муж.

– Вось у суседкі муж ніколі ў брудным абутку не ходзіць!

– Але, яна сама па гаспадарцы ўходжваецца, – пагаджаецца Іван. – А муж тым часам да каханкі ходзіць. Цэлы месяц дома не было – учора толькі вярнуўся...

– Шанцуе суседцы з мужам! – стаіць на сваім Ганна. – Цэлы месяц кабета адпачывала: каханка і вопратку мыла, і есці варыла. А час прыйшоў бульбу выбіраць – муж дахаты вярнуўся. Не тое, што ты, недарэка!..

**Даслала Ірына КАРАЧУН,**
*г. Баранавічы.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Міколы НАВАРЫЧА.






Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.

## ШАНОЎНЫЯ СЯБРЫ!

Дзякуй вам за актыўны ўдзел у конкурсе. Прыемна, што ў «Вожыка» шмат вясёлых і дасціпных чытачоў. Сёння мы прапануем новы фотаздымак «з усмешкай». І чакаем новых гумарыстычных подпісаў!

А пакуль аб'явім пераможцаў конкурсу, якія даслалі нам свае вершаваныя радкі да фота, змешчанае ў першым нумары «Вожыка» за гэты год. **1-е месца** і падпіска на часопіс на тры месяцы (красавік, май, чэрвень 2012 года) дасталася дэбютанту конкурсу і шчыраму прыхільніку «Вожыка» **Віктару МУХУ** з г. Магілёва: *«Наш чалавек жыццём навучаны: ні сам, ні «тачка», дык хоць нумар – кручаны!»* **2-е месца** заняў пастаянны і актыўны ўдзельнік нашага конкурсу **Анатоль ГАРАЧОЎ** з в. Доўнары Іўеўскага раёна: *«І не ў пашане, і не ў модзе, і іншамаркам ён не брат: стаіць, нібыта бедны родзіч, кароль савецкіх аўтастрад!..»* і атрымаў падпіску на часопіс на два месяцы (красавік, май 2012 года). **3-е месца** і падпіска на часопіс на адзін месяц (красавік 2012 года) чакае **Уладзіміра КУЧМІНСКАГА** з г. Маларыты: *«Я не Шэрлак Холмс, не Ватсан. Эх, куды з імі цягацца! І дэдукцыі не маю, але тут напэўна знаю: вельмі моцны вецер дзьмуў – моцна нумар загарнуў!»*

Аўтар фота **Леанід ГАДУН** з г. Барысава атрымаў сваю заслужаную ўзнагароду: падпіску на «Вожык» на тры месяцы (красавік, май, чэрвень 2012 года).

Віншуем пераможцаў!






### Бабуліна радасць

Гутараць дзве бабулі:
– Ваш унучак размаўляе?
– Пакуль што не.
– А наш Юраська ўжо гаворыць!..
– І што ж ён сказаў?
– Баба – бяка.

### Несумяшчальнасць

Муж разводзіцца з жонкай. Тлумачыць:
– У нас несумяшчальнасць.
– Як гэта? – удакладняе суддзя.
– Я хачу піць гарэлку, а жонка – забараняе.

### Прасі, як я...

– Цябе так цудоўна апранае муж! – з захапленнем гаворыць маладая жанчына знаёмай. – А ў майго скнары ніяк не выпрасіць абноўку...
– А калі ты просіш?
– Днём, безумоўна.
– А ты прасі ноччу, як я...

**Даслаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

**«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс**

№ 3 (1482), 2012 год.

*Выдаецца з ліпеня 1941 года. Часопіс «Вожык» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэгістрацыйны № 520.*

Заснавальнікі – Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, РВУ «Літаратура і Мастацтва».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.



**Рэдакцыя:**
Павел САКОВІЧ *(аддзел літаратуры),* Алесь НАВАРЫЧ (аддзел фельетонаў і пісьмаў), Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел).*

*Рэдактар стылістычны* Марыя ПЛЕВІЧ.
*Камп'ютарная вёрстка* Алена МАКАРЭНКА.

**Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, праспект Незалежнасці, 39.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220005, Мінск,**
**праспект Незалежнасці, 39.**
**E-mail:a-vojik@yandex.ru**

***Тэлефоны:***
***галоўнага рэдактара, аддзела літаратуры, мастацкага аддзела — 284-84-52, бухгалтэрыі — 284-66-72, факс — 284-84-61.***



Падпісана да друку 12.03.2012
Фармат 60х84 $^{1}/_{8}$.
Афсетны друк.
Папера афсетная.
Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,89.
Тыраж 1881 экз.
Зак. 684.

Кошт нумара ў розніцу 12 200 руб.

РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск,
праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009.